Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

Цэнтральны Камітэт Камуністычнай партыі (бальшавікоў) Беларусі

# БЮЛЕТЭНЬ
## ЦЭНТРАЛЬНАЙ ПАСЕЎНАЙ КАМІСІІ

№ 2 27 ЛЮТАГА № 2





МЕНСК — 1933

Пралетары ўсіх краёў, злучайцеся!

# БЮЛЕТЭНЬ

Цэнтральнай Пасеўнай Камісіі

№ 2
26 лютага
1933 г.

## АД РЭДАКЦЫІ БЮЛЕТЭНЯ

У падрыхтоўцы да сяўбы ў радзе рашаючых задач **сёньня** асаблівае значэньне мае **рамонт трактараў, насеньне і падрыхтоўка каня да вясны**. Тое, што мы маем на сёнешні дзень, яўна нездавальняюча, асабліва па рамонце трактараў. У радзе раёнаў (Полацак, Бешанковічы, Шклоў, Сіроціна і інш.) тэмпы рамонту трактараў і засыпкі насеньня такавы, што атрымалась яўная пагроза зрыву падрыхтоўкі да веснавой сяўбы.

Рамонт трактараў зрываецца, па-першае, з-за адсутнасьці т. з. запчастак (дакладней, дэталей трактару). Ад работы Гомсельмаша, „Пралетара", „Чырвонага Адраджэнца" і інш. залежыць зараз у рашаючай меры посьпех своечасовага рамонту трактараў. **Выканаць і перавыканаць заданьні ЦК і СНК па запчастках—да 5 сакавіка—такава баявая задача прадпрыемстваў БССР.**

**Своечасовая адгрузка запчастак** з прадпрыемства ў МТМ, МТС і саўгасы на сёнешні дзень мае вялізарнае значэньне для **тэмпаў** рамонта. Белснабрамонт бюракратычна тармозіць адгрузку, але пэўная віна кладзецца і на самыя прадпрыемствы. Партарганізацыі і дырэкцыі заводаў павінны па-бальшавіцку змагацца за **неадкладную адгрузку** запчастак.

Але апартуніст той, хто будзе хавацца за запчасткамі, як аб'ектыўнай прычынай агіднага ходу рамонту. Чаму Буда-Кашалёўская МТС магла скончыць рамонт, а Хойніцкая, Сураская, Шклоўская і інш. амаль не пачыналі? Посьпех вырашае **кіраўніцтва**. Дзе дырэктар і раённыя арганізацыі ачысьцяць МТС ад клясава-чуждых элемэнтаў, правільна арганізуюць працу ў майстэрні, ствараць моцную дысцыпліну, ліквідуюць ўраўнілаўку ў зарплаце, там рамонт трактараў зрушыцца з мёртвага пункту і будзе ісьці бальшавіцкімі тэмпамі.

**Насеньне**—другі важнейшы вучастак падрыхтоўкі да сяўбы. У засыпцы насеньня па радзе раёнаў (Расоны, Сіроціна, Полацак і інш.) яўна праяўляецца кулацкі сабатаж. Зламаць яго там, дзе гэта трэба, давесьці да канца засыпку насеньня мэтадамі загатовак—важнейшая палітычная задача дня.

Але мала засыпаць насеньне. Яго трэба ахоўваць і захоўваць, трэба ачышчаць. Між тым, амаль ва ўсіх раёнах ёсьць значная колькасьць фактаў раскрадваньня насеньня, псаваньня насеньня, бязьдзейнасьці калгасаў у справе ачысткі насеньня.

Пакончыць з гэтымі агіднымі зьявішчамі, узяцца за апэрацыйнае кіраўніцтва аховай, захаваньнем, **ачысткай насеньня**—баявая задача РК, РВК і Райза. **У кожным калгасе трэба таксама ўзяць у апэрацыйныя рукі падрыхтоўку да сяўбы ў аднаасобным сэктары.**—Давесьці пасеўныя пляны да кожнага аднаасобніка, узяцца за засыпку насеньня рашуча ў аднаасобным сэктары, за падрыхтоўку аднаасобнага каня да сяўбы і г.д.

**Конь**—ва ўмовах БССР у значнай меры вырашае посьпех сяўбы. Прайшло ўжо паўмесяца пасьля рашэньня ЦК і СНК БССР аб падрыхтоўцы рабочага каня да вясны, а ў нас—у БССР—за рэалізацыю гэтага рашэньня па-баявому на ўзяліся. Трэба ў самыя бліжэйшыя дні правесьці разьбіўку коняй на групы, трэба неадкладна перагледзіць склад конюхаў, забраніяваць кармы, ахоўваць іх ня менш насеньня і ўмела расходваць

Падрыхтоўка да сяўбы—справа **найшырэйшых мас**. Арганізаваць іх, як сказаў тав. Кагановіч на Усесаюзным зьезьдзе ударнікаў калгасьнікаў,—гэта значыць і павысіць іх сьвядомасьць. Давесьці да кожнага калгасьніка адозву зьезду, прамовы тав. Сталіна, яго лёзунг—„зрабіць усіх калгасьнікаў заможнымі"—гэта значыць надаць **новы** размах усёй падрыхтоўцы да сяўбы. **Раённыя** зьлёты ўдарнікаў-калгасьнікаў і сьледуемы за імі ўсебеларускі зьлёт павінны адыграць значную ролю ў мабілізацыі найшырэйшых мас на барацьбу за бальшавіцкую сяўбу, за неадкладную ўзорную падрыхтоўку гэтых зьлётаў!

# астанова аб'яднанага пленуму ЦК і ЦКК П(б)Б аб ходзе падрыхтоўкі да веснавой сяўбы

1. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б лічыць, што ход падрыхтоўкі да веснавой сяўбы па асноўных і рашаючых паказальніках (рамонт трактараў, выраб запасных частак, падрыхтоўка цягавай сілы, ссыпка насеньня, ачыстка і праверка яго захаванасьці і правядзеньне аграмерапрыемстваў па павышэньні ўраджайнасьці) праходзіць абсалютна нездавальняюча як у цэнтры, так і на месцах.

2. Пленум лічыць асабліва недапушчальным такі ход падрыхтоўкі пасьля маючага месца папярэджаньня тав. Сталіна ў маі месяцы мінулага году, адзначаючага недапушчальнае адставаньне ў правядзеньні сяўбы па Беларусі, урокі якога ня ўлічаны ўсёй арганізацыяй у бягучай падрыхтоўчай кампаніі да сяўбы.

3. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б патрабуе з усёй бальшавіцкай жорсткасьцю ад усіх цэнтральных і раённых партыйных і савецкіх арганізацый неадкладнага пераключэньня ўсіх сіл на выкананьне баявых задач, пастаўленых у сувязі з падрыхтоўкай і правядзеньнем веснавой сяўбы.

4. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК КП(б)Б ухваляе ўжо прынятыя мерапрыемствы бюро ЦК па пытаньні падрыхтоўкі да сяўбы.

Разам з тым пленум ЦК і ЦКК даручае бюро ЦК, прэзыдыуму ЦКК і Саўнаркому БССР неадкладна правесьці канкрэтныя мерапрыемствы, згодна апошнім дырэктывам ЦК УсеКП(б) і СНК Саюзу, аб рамонце трактараў, аб кані і г. д., апублікаваным у „Правде" (№ 29 і 41 ад 30-І і 11-ІІ 33 г.) з тым, каб кожны раён, кожная МТС, кожны саўгас і калгас у практычнай сваёй працы забясьпечылі выкананьне сяўбы поўнасьцю без якіх-бы там ні было агаворак і спасыланьняў на розныя прычыны, якія быццам-бы перашкаджаюць ім у рабоце па сяўбе.

5. Аб'яднаны пленум лічыць, што пляны сяўбы, вызначаныя бюро ЦК і Саўнаркомам, рэальны і выканальны як у агульным па рэспубліцы, так і па кожным раёне ў асаблівасьці як па агульнай плошчы пасеву, так і па асобных культурах. Аб'яднаны пленум папярэджвае, што ўсялякія размовы аб невыканальнасьці або нерэальнасьці плянаў будуць разглядацца як простае кулацкае супраціўленьне заданьням партыі і ўраду. У адпаведнасьці з гэтым пленум даручае бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК прыняць рашучыя меры прасячэньня зрываў заданьня партыі з боку асобных зьвеньняў апарату, раёнаў, калгасаў і асобных членаў партыі.

6. Становішча ў БССР, калі аднаасобныя гаспадаркі займаюць значнае месца ў сяўбе, абавязвае КП(б)Б, савецкія, камсамольскія і прафсаюзныя арганізацыі ні ў якай меры ня выпусьціць з-пад увагі пытаньня сваечасовай падрыхтоўкі і ўдзелу аднаасобніка ў сяўбе. Пасьпяховае правядзеньне сяўбы пры маючых месца ўжо сёньня элемэнтах супраціўленьня прыняцьцю плянаў, што спускаюцца да аднаасобнай гаспадаркі, патрабуе ад усёй партыйнай арганізацыі выключнай увагі пытаньням падрыхтоўкі і правядзеньня сяўбы па аднаасобным сэктары на аснове ўліку адпаведных рашэньняў партыі, у прыватнасьці рашэньняў на Паўночным Каўказе.

7. Прыняць прапановы бюро ЦК і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б аб выезьдзе пасьля пленуму кіруючых цэнтральных работнікаў і цэнтральнага актыву на месцы (члены бюро ЦК, члены прэзыдыуму ЦКК, члены ЦК і работнікі цэнтральнага актыву) як для праверкі ходу падрыхтоўкі да сяўбы, так і для дапамогі раёнам у справе разгортваньня пасеўнай кампаніі.

8. Ня гледзячы на поўную магчымасьць ссыпкі насеньня цалкам і ў тэрмін, рад раёнаў да гэтага часу ня выканалі гэтай баявой задачы. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК патрабуе ад усіх раённых арганізацый безагаворачнага выкананьня заданьня па ссыпцы насеньня, забясьпечыўшы 100 проц. ссыпку не пазьней 1-га сакавіка. Пленум папя-

рэджвае ўсе раённыя арганізацыі, што ніякія агаворкі аб невыкананьні ўстаноўленых заданьняў па ссыпцы насенных фондаў прымацца ў апраўданьне ня будуць.

9. Аб'яднаны пленум ЦК і ЦКК лічыць, што бальшавікі Беларусі, рашуча змагаючыся з славесна-дэклярацыйнымі адносінамі да работы, сваёй практычнай работай, бальшавіцкім кіраўніцтвам пытаньнямі падрыхтоўкі да сяўбы і пасеўнай кампаніі забясьпечаць цалкам усе заданьні партыі па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні саўгасаў і калгасаў, павышэньні ўраджайнасьці, **ачыстцы** калгасаў і саўгасаў ад кулацкіх, контррэвалюцыйных элемэнтаў, даб'юцца заваяваньня большасьці калгасьнікаў і згуртаваньня іх вакол партыі ў барацьбе за сапраўды бальшавіцкую сяўбу першага году другой пяцігодкі.

# Аб абавязковай пастаўцы бульбы дзяржаве калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі

## Пастанова Савету Народных Камісараў Саюзу ССР і Цэнтральнага Камітэту УсеКП(б)

У мэтах далейшага ўздыму ўраджайнасьці і пашырэньня пасеўных плошчаў бульбы, а таксама ў мэтах сваечасовага вызначэньня памераў абавязацельстваў калгасаў і аднаасобных гаспадарак па здачы (продажы) бульбы дзяржаве, Савет Народных Камісараў Саюзу ССР і Цэнтральны Камітэт УсеКП(б) пастанаўляюць:

1. Парадак здачы (продажы), устаноўлены пастановаю Саўнаркому СССР і ЦК УсеКП(б) ад 19 студзеня 1933 г. у адносінах да збожжавых культур, распаўсюдзіць на бульбу і ўстанавіць для калгасаў і аднаасобных гаспадарак замест існуючай дагаворнай (кантрактацыйнай) сыстэмы загатовак бульбы цьвёрдыя, маючыя моц налогу абавязацельствы па здачы бульбы дзяржаве па ўстаноўленых дзяржаўных цэнах.

2. Зацьвердзіць для калгасаў і аднаасобных гаспадарак ніжэйнаступныя сярэднія па рэспубліках, краёх і вобласьцях нормы здачы дзяржаве бульбы ўраджаю 1933 г. з разьліку на кожны гектар вызначанага на весну 1933 г. пляну пасеву бульбы (у цэнтнерах):

| | Калгасы абслуг. МТС | Калгасы неабслуг. МТС | Калгасьн. па неабаг. пасевах | Аднаасобнікі |
|---|---|---|---|---|
| Паўночны край | 4 | 7 | 8 | 10 |
| Ленінградзк. вобласьць | 6 | 9 | 11 | 12 |
| Заходн. вобласьць | 9 | 13 | 14 | 16 |
| Маскоўск. вобласьць | 12 | 16 | 18 | 20 |
| Іванаўская вобл. | 15 | 20 | 22 | 24 |
| Горкаўскі край | 6 | 9 | 11 | 12 |
| Уральск. вобласьць | 11 | 14 | 16 | 18 |
| Башкірыя | 11 | 14 | 16 | 18 |
| Татарыя | 8 | 11 | 13 | 14 |
| Сярэдня-Волскі край | 8 | 11 | 13 | 14 |
| ЦЧВ | 9 | 13 | 15 | 16 |
| Ніжня-Волскі | 4 | 7 | 9 | 10 |
| Паўноч.-Каўказкі край | 6 | 9 | 11 | 12 |
| Казакстан | 8 | 11 | 12 | 14 |
| Заходня-Сібірскі край | 8 | 11 | 12 | 14 |
| Усходня-Сібірскі край | 10 | 12 | 13 | 15 |
| ДВК | 9 | 12 | 10 | 14 |
| УССР | 1 | 9 | 11 | 12 |
| БССР | 9 | 12 | 13 | 15 |

3, Прапанаваць Саўнаркомам Саюзных Рэспублік, краявым, абласным Выканкомам, Крайкомам, абласным камітэтам і ЦК Нацкампартый ў адпаведнасьці з пунктам 2 гэтае пастановы вызначыць і па зацьверджаньні Саўнаркому СССР апублікаваць да 10 сакавіка 1933 году параённыя нормы здачы бульбы дзяржаве,—калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі, дапускаючы хістаньні вышэй альбо ніжэй нормы, устаноўленае для данай рэспублікі, края, альбо вобласьці з тым, аднак, каб было забясьпечана поўнае выкананьне ўстаноўленага для рэспублікі, края і вобласьці разьмеру бульбаздачы, і каб сярэдняя норма здачы бульбы з гектара па рэспубліцы

краі і вобласьці ў цэлым была ня ніжэй, вызначанай пунктам 2 гэтае пастановы. Параённыя нормы, вызначаныя Саўнаркомамі Саюзных Рэспублік, краявымі і вобласнымі выканкомамі, зьяўляюцца абавязковымі для данага раёну і ня могуць падвяргацца зьменам.

4. Вызначыць наступныя каляндарныя тэрміны выкананьня калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі гадавых абавязацельстваў па здачы бульбы дзяржаве ў процантах ад пагектарных норм, вызначаных пунктам 2 гэтае пастановы:

| Назва раёнаў | Ліпень | Жнівень | Верасень | Кастрычнік | 3 1 па 15 лістапада |
|---|---|---|---|---|---|
| Поўночны край | — | — | 25 | 65 | 10 |
| Ленінградзк. вобласьць | — | — | 30 | 60 | 10 |
| Заходняя вобласьць | — | 2 | 30 | 55 | 13 |
| Маскоўская вобласьць | — | 2 | 28 | 55 | 15 |
| Іванаўская вобласьць | — | 2 | 30 | 55 | 13 |
| Горкаўскі край | — | 2 | 3 | 55 | 13 |
| Уральская вобл. | — | — | 20 | 60 | 20 |
| Башкірская АССР | — | 2 | 30 | 55 | 13 |
| Татарская АССР | — | 2 | 30 | 55 | 13. |
| Верхня-Волскі край | — | 2 | 3 | 50 | 18 |
| Цэнтрал. Чарназ. вобл. | 1 | 3 | 30 | 48 | 18 |
| Ніжня-Волскі край | 1 | 5 | 30 | 50 | 14 |
| Паўноч.-Каўк. край | 3 | 10 | 30 | 50 | 7 |
| Казакская АССР | — | 2 | 30 | 55 | 13 |
| Заход.-Сібір. край | — | — | 30 | 60 | 10 |
| Усход.-Сібір. край | — | — | 30 | 60 | 10 |
| Далёка-Усход. край | — | — | 30 | 60 | 10 |
| УССР | 2 | 5 | 30 | 52 | 10 |
| БССР | — | 2 | 20 | 65 | 13 |

5. Захаваць існуючыя цэны на бульбу, якая здаецца дзяржаве.

6. У залік выкананьня калгасамі і аднаасобнымі гаспадаркамі сваіх абавязацельстваў, вызначаных гэтай пастановай, прымаюцца толькі бульба добраякасная (сухая, ачышчаная ад зямлі, здаровая). Бульба вільготная, хворая, мэханічна-папсаваная, марожаная не залічваецца ў выкананьне абавязкаў калгасаў і аднаасобных гаспадарак.

7. Калгасы, ня выканаўшыя сваіх абавязкаў па здачы бульбы дзяржаве ў вызначаныя гэтаю пастановаю каляндарныя тэрміны, падвяргаюцца праз сельсаветы грашоваму штрафу ў разьмеры рыначнага кошту недавыкананай часткі абавязацельства і звыш таго да гэтых калгасаў прад'яўляецца патрабаваньне аб датэрміновым выкананьні ўсяго гадавога абавязацельства падлягаючага спагнаньню ў бясспрэчным парадку.

Аднаасобныя гаспадаркі, ня выканаўшыя сваіх абавязкаў па здачы бульбы дзяржаве да вызначаных гэтаю пастановаю тэрмінаў, прыцягваюцца да судовай адказнасьці паводле артыкулу 61 Крымінальнага Кодэксу РСФСР і ў іншых рэспубліках паводле адпаведных артыкулаў крымінальнага кодэксу гэтых рэспублік.

8. Выкананьне вызначаных гэтаю пастановаю абавязкаў па здачы бульбы зьяўляецца першачарговым абавязкам кожнага калгасу і аднаасобнае гаспадаркі, і павінна вытварацца з першых збораў. Вызначыць, што калгасны гандаль бульбаю будзе дазваляцца толькі пасьля выкананьня вызначанага на падставе гэтае пастановы пляну бульбазагатовак у цэлым па рэспубліцы, краі, вобласьці і поўнай засыпцы пасьля выкананьня пляну бульбазагатовак насенных фондаў.

9. Бязумоўна забараняецца мясцовым органам улады і загатоўчым органам допускаць сустрэчныя пляны, або накладваць на калгасы і аднаасобныя гаспадаркі абавязацельствы па здачы бульбы, перавышаючыя пагектарныя нормы, вызначаныя гэтым законам. Усе лішкі бульбы пасьля выкананьня абавязацельства здачы дзяржаве бульбы застаюцца ў поўным распараджэньні саміх калгасаў, калгасьнікаў і аднаасобнікаў.

Старшыня Саўнаркому СССР
**В. Молатаў (Скрабін)**

Сакратар ЦК УсеКП(б)
**І. Сталін**

20-га лютага 1933 г.
Масква—Крэмль

# Аб вырабе запасных частак да трактараў на заводах Любарэцкім, Яраслаўскім аўтамабільным, Торацкім і імя Карла Лібкнэхта

*ПАСТАНОВА КАМІСІІ ВЫКАНАНЬНЯ СНК СССР ад 17 ЛЮТАГА 1933 г.*

Заслухаўшы даклады дырэктароў Любарэцкага заводу тав. Чайка, Яраслаўскага аўтазаводу № 3 тав. Яленіна, заводу імя Карла Лібкнэхта тав. Сіманоўскага, Торацкага заводу (Данбас) тав. Токарава і судаклад прадстаўніка НК-РСІ СССР тав. Барсукова аб вырабе запасных частак да трактараў,—камісія выкананьня пастанаўляе:

1. Дырэктару Любарэцкага заводу тав. Чайка абвясьціць суровую вымову за недаацэнку значэньня заданьня па вырабе запчастак і недапушчальна нядбайныя адносіны да яго выкананьня. Тав. Чайка прыняў заказ на вострадэфіцытныя дэталі 20 кастрычніка і маючы поўную магчымасьць вырабляць гэтыя дэталі на заводзе, не прыступіў да выкананьня заданьня да канца студзеня 1933 г.

2. Дырэктар Торацкага заводу тав. Токараў абавязаны пастаўляць сталёвае ліцьцё раду заводаў, вырабляючым запчасткі, дапусьціў цеганіну, прабуючы на працягу ўсяго 4-га кварталу перакладаць выраб мадэляй для сталёвага ліцьця на іншыя заводы, у выніку чаго Торацкім заводам у 4-м квартале ня здана ні аднэй штукі сталёвага ліцьця, а на 9 лютага 1933 г. праграма першага кварталу выканана толькі на 16 проц.

За праяўленую цеганіну і зрыў тэрмінаў па пастаўцы ліцьця тав. Токараву абвясьціць вымову.

3. Дырэктар Яраслаўскага аўтазаводу тав. Яленін у 1932 годзе заказ на запчасткі ў разьмеры 66.000 руб. выканаў усяго на 8.000 руб., або на 0,8 проц., а заданьне першага кварталу выканаў на 9 лютага ўсяго на 11,1 проц., прычым па вострадэфіцытнай дэталі (болт, шатуны) у 1932 годзе і ў студзені гэтага году заводам ня здана ні аднэй штукі. За зрыў заданьня 1932 г. і нездавальняючае выкананьне пляну першага кварталу тав. Яленіну абвясьціць вымову.

4. Дырэктар заводу імя Карла Лібкнэхта тав. Сіманоўскі, маючы неабходныя матар'ялы і абсталяваньне для вырабу вострадэфіцытных дэталяй, заказ 1932 г. у разьмеры 97.000 гільзаў і 29.000 поршнявых пальцаў выканаў па гільзах—на 27 проц., а па пальцах—на 1,8 проц. Праграма першага кварталу ў разьмеры 59.000 гільзаў да трактараў замежных марак, 20.000 гільзаў для трактараў СТЗ і 20.500 поршнявых пальцаў выканана заводам на 10 лютага па гільзах замежных марак на 25 проц., а па гільзах і трактарах СТЗ і па поршнявых пальцах ня здана ні аднэй штукі.

За зусім нездавальняючае выкананьне заданьня як у 1932 г., так і ў студзені 1933 г., тав. Сіманоўскаму абвясьціць вымову.

На чарговым пасяджэньні камісіі выкананьня заслухаць аб выкананьні заданьня па вырабе запчастак іншымі аб'яднаньнямі і заводамі і аб выдачы Наркамземам і Наркамсаўгасаў разнарадак заводам на адгрузку запчастак.

Нам. старшыні Камісіі
Выкананьня Я. Рудзутак.

Нам. сакратара Камісіі
Выкананьня М. Рэмізаў

# АБ ВЫРАБЕ ЗАПАСНЫХ ЧАСТАК

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

1. Адзначыць, што ня гледзячы на пастанову ЦК КП(б)Б, спэцыяльныя тэлеграмы ЦК і СНК дырэктарам заводаў аб прыняцьці неабходных мер ход выпуску запасных частак зьяўляецца зусім нездавальняючым. Асабліва дрэнна работаюць „Пралетары“ і Гомсельмаш. З боку Уполнаркамцяжпрому і дырэктароў заводаў ня прыняты сапраўды баявыя меры па забесьпячэньні сваечасовага выпуску запасных частак

2. Устанавіць максымальны тэрмін вытворчасьці запасных частак у частцы якая вызначана заданьнем ЦК КП(б)Б— 5 сакавіка 1933 году. Таксама ў частцы вытворчасьці запасных частак, якія прадугледжаны дагаворам звыш заданьня ЦК КП(б)Б—15 сакавіка 1933 г. аб чым Уполнаркамцяжпрому паведаміць заводам у копіі сваёй дырэктывы ЦК КП(б)Б не пазьней 24 гадзін 20 лютага 1933 году.

Абавязаць т. Амбражунаса ў адпаведнасьці з гэтым пераключыць большую колькасьць рабочых, станкоў і забясьпечыць водпуск неабходных сродкаў на гэтую справу.

3. У мэтах забесьпячэньня адрэмантаваных трактараў запаснымі часткамі, даручыць т. Рачыцкаму ў 2-хдзённы тэрмін дань дасканалую заяўку якую колькасьць і якія запчасткі павінен выпрацаваць Уполнаркамцяжпром звыш заданьня, маючы на ўвазе асвоеныя вучастк, а Уполнаркамцяжпрому т. Амбражунасу забясьпечыць іх вытворчасьць

4. Усе мэталі, у тым ліку і цветныя, якія атрымліваюцца па лініі НКЗему Упаўнаркамсаўгасаў для вытворчасьці запчастак і рамонту трактароў—перадаюцца Уполнаркамцяжпрому неадклад на па атрыманьні нарадаў, у адпаведнасьці з плянам вытворчасьці рамонту і вытворчасьці зап. частак.

Абавязаць Наркамзем т, Рачыцкага і Упаўнаркамсаўгасаў т. Жолудава рашуча дабівацца атрыманьня занараджаных мэталяў з Масквы.

5. Папярэдзіць Уполнаркамцяжпром т. Амбражунаса і дырэктароў заводаў, што яны цалкам адказваюць за якасьць рамонту трактароў і выпрабаваньне рамантуемых машын.

6. Даручыць т. Турлаю праверыць заяву т. Амбражунаса аб тым, што НКЗ не перадаў УНКТ адпушчаных яму цветных мэталяў, на Цэнтрпасеўкоме і свае прапановы ў аднадзённы тэрмін правесьці апросам членаў Цэнтрапасеўкому.

# АБ ХОДЗЕ РАМОНТУ ТРАКТАРАЎ

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

ЦК і СНК канстатуюць надзвычайна нездавальняючы ход рамонту трактараў і прыцэпнага інвэнтару як па сыстэме НКЗ (32 проц.) (па Ільнотрактарацэнтру штодзённа рамантуюць 5—6 трактараў, замест неабходных 22—23, па Гароднабульбяному трактарацэнтру—4, замест 15, па Збожжаваму трактарацэнтру—3 замест 10 трактараў і г. д.); асабліва нездавальняюча абстаіць з рамонтам трактараў па сыстэме Упаўнаркамсаўгасаў (26 проц.), што ставіць пад поўную пагрозу сваечасовае заканчэньне (15 сакавіка) рамонт трактараў і прыцапнога інвэнтару.

ЦК і СНК канстатуюць, што у сьвятло гэтых фактаў заявы кіраўнікоў Трактарацэнтраў тав. Качука, Дубоўскага і Грабенчыка і Нам. Упаўнаркамсаўгасаў т. Сьмірнова аб поўнай гарантыі сваечасовага сканчэньня рамонту, зьяўляецца вузорам славесна дэкларацыйных не бальшавіцкіх адносін да справы.

ЦК і СНК устанаўляе, што кіраўнікі Трактарных цэнтраў па сутнасьці не ауладалі яшчэ тэхнікай рамонту, трактара ў прыватнасьці. ЦК і СНК канстатуюць, што РК, РВК і дырэктары МТС і саўгасаў не ўзяліся па бальшавіцку за

справу рамонта трактароў, ня кіруюць гэтай справай апэрацыйна (сваечасовая адпраўка трактараў у рамонтныя майстэрні, арганізацыя працы у МТС і МТМ, аплата труда, якая стымуліруе ўзьняцьце прадукцыйнасьці і якасьці рамонту і г. д.), што прывяло па раду МТС (Суражская, Чаўская, Хойніцкая і г. д.), МТМ (Дзяржынская, Гомельская, Горацкая і г. д.) да глыбокага прарыву і да магчымасьці асобным загадчыкам МТМ (Лепельская) займацца ачкоўцірацельствам.

ЦК і СНК устанаўліваюць, што яшчэ да сёнешняга дню НКЗ, Упаўнаркамсаўгас ня маюць чоткага і цьвёрдага пляну рамонту трактараў (у прыватнасьці падразьдзяленьня яго на віды рамонту).

ЦК і СНК пастанаўляюць:

1. Прапанаваць т. т. Рачыцкаму і Жолудаву у 5-цідзённы тэрмін канчаткова ўстанавіць точную колькасьць трактараў і матораў, падлягаючых рамонту ў МТМ і на заводах, зрабіўшы суадпаведную разнарадку па МТМ і (сумесна з т. Амбражунасам) па заводах.

Абавязаць пэрсанальна сакратароў ГК і РК з свайго боку праверыць гэтую справу і тэлеграфна прыслаць сваё меркаваньні Цэнтрапасеўкому і забясьпечыць неадкладна адпраўку трактараў МТС і саўгасам на пункты рамонту.

2. Абавязаць т. Грабенчыка, Дубоўскага, Соліванава і Сьмірнова неадкладна ўстанавіць канкрэтнае апэрацыйнае кіраўніцтва рамонтам трактараў (у прыватнасьці штодзённае дыфэрэнцыраванае кіраўніцтва кожнай МТМ і МТС), якое забясьпечыла-б рашучы пералом у бліжэйшую пяцідзёнку.

Папярэдзіць указаных таварышоў, што ЦК і СНК прымушаны будуць, у выпадку калі гэты пералом ня будзе дасягнут, прыняць рашучыя меры партузьдзейнічаньня.

3. Лічучы недапушчальным, калі МТМ аднаго Трактарацэнтру сабатуе рамонт трактараў МТС другога трактарацэнтру і прымацаванай данай МТС ЦК і СНК папярэджваюць, што віноўныя ў гэтым будуць працягнуты да суровай адказнасьці.

4. Абавязаць МТМ і заводы, асаблівую ўвагу зьвярнуць на рамонт трактараў і матораў глыбінных МТС.

5. Абавязаць МТС і саўгасы, якія рамантуюць трактары у МТМ і заводах забясьпечыць апошнія зап. часткамі, якія ня могуць быць выраблены на заводзе і разам з тым адпушчаны ў цэнтралізаваным парадку.

# Аб заметцы ў газэце „Правда“—„Благим порывам не суждено было сбыться“

*ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б і СНК БССР*

Заслухаўшы паведамленьне камісіі ЦК па праверцы фактаў недапушчальнай бюракратычнай цеганіны з боку Наркамзему і Ўпаўнаркамцяжпрому па рамонту трактараў, зьмешчаных у заметцы ў „Правде“ ад 5 лютага 1933 г. за № 35, ЦК і СНК пастанаўляюць:

1. Адзначыць, што зьмешчаная ў нумары „Правды“ заметка аб фактах бюракратызму і цеганіны з боку НКЗ і Ўпаўнаркамцяжпраму па рамонту трактараў і вырабу запчастак поўнасьцю адпавядае сапраўднасьці, што пацьвердзілася расьследваньнем спэцыяльнай камісіі ЦК КП(б)Б.

2. Прыняць да ведама заяву т. т. Рачыцкага, Амбражунаса і камісіі, што прыняты меры да безадкладнай ліквідацыі гэтай бюракратычнай цеганіны і забясьпечан безадкладны разварот работ на прадпрыемствах Наркамцяжпраму па рамонту трактараў і вырабу запчастак.

3. Указаць тав. Рачыцкаму на недапушчальную з яго боку цеганіну пры правядзеньні важнейшай пастановы ЦК аб фарсаваньні рамонту трактараў і вырабу запчастак тым больш, што тав. Рачыцкі зьяўляецца членам бюро ЦК КП(б)Б і на ім ляжыць найбольш сур'ёзная партыйная адказнасьць.

4. Абвясьціць суровую вымову т. Амбражунасу, які па рассьледваньні камісіі аказаўся галоўным вінаватым у затрымцы рамонту трактараў і папярэдзіць яго, што ў выпадку дапушчэньня ў далейшым падобнага роду адносін да даручэньняў, ЦК і СНК у адносінах да яго будуць зроблены больш суровыя вывады.

5. Адзначыць, што да гэтага часу непасрэдныя выканаўцы ў сыстэме і цэнтральным апараце Наркамзему і Упаўнаркамцяжпраму яшчэ не пакараны, у сувязі з фактамі, адзначанымі „Праўдой", прапанаваць т. т. Рачыцкаму і Абражунасу безадкладна накласьці на іх пакараньне з паведамленьнем ЦК і СНК аб прынятых мерах.

Адзначыць, што гэта справа ўказвае на наяўнасьць у раду работнікаў савецкіх і партыйных арганізацый Беларусі, яўна апартуністычных адносін да справы рамонту трактараў і вырабу запчастак і недаацэнкі важнасьці своечасовага разгортваньня ўсёй работы па падрыхтоўцы да сяўбы. Папярэдзіць як усіх кіруючых работнікаў БССР, так і мясцовых работнікаў, што ЦК і СНК будуць прыняты самыя рашучыя меры ў адносінах работнікаў, якія незабясьпечваюць работу па падрыхтоўцы да сяўбы.

# АБ ПРАСОЎВАНЬНІ ВЫПРАЦОЎВАЕМЫХ ЧАСТАК З ЗАВОДАЎ У МТС, МТМ І САЎГАСЫ

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

Цэнтрапасеўком канстатуе злачынна-бюракратычныя адносіны да прасоўваньня востра-дэфіцытных запасных частак да трактараў з боку заводу „Камунар" (на 10 лютага ён меў 300 паршнявых кольцаў, аднак, першую партыю—870 кольцаў здаў толькі 15 лютага) і асабліва Белснабрамонту.

Белснабрамонт ня толькі не забясьпечыў штодзённага атрыманьня гатовай прадукцыі з заводаў, але дапускае замарожваньне гатовай прадукцыі заводаў у сябе на складах (так, атрыманыя ім 15 лютага кольцы—17-га ўвечары яшчэ ляжалі на складзе і на апрацоўку іх складам ня было атрымана ні разнарадак ад Белснабрамонту, ні калькуляцый ад заводу „Камунар").

Цэнтрапасеўком канстатуе, што ў Белснабрамонце фактычна няма адказнай асобы за прасоўваньне запасных частак. Нагляд за складам даручан Мешутовічу, які у дзелавых і палітычных адносінах ня можа забясьпечыць даручанай яму справы.

Прасоўваньне запасных частак ні разу не правяралася ні загадчыкам апаратцыйным сэктарам тав. Шэрсам, ні начальнікам канторы Белснабрамонту тав. Буднікам.

Выходзячы з гэтага, Цэнтрапасеўком пастанаўляе:

1. За бюракратычную цеганіну ў адносінах прасоўваньня частак абвясьціць вымову тав. Будніку (Белснабрамонт) і паставіць на від тав. Пажывілка—дырэктару заводу „Камунар".

2. Прапанаваць заводу „Камунар" і ўсім іншым заводам, якія выпускаюць запасныя часткі, пад пэрсанальную адказнасьць дырэктароў, забясьпечыць іх штодзённую здачу.

3. Прапанаваць Белснабрамонту, пад пэрсанальную адказнасьць тав. Будніка, на працягу сутак з дня атрыманьня—забясьпечыць адпраўку дэфіцытных частак па разнарадках.

4. Даручыць органам КК-РСІ забясьпечыць кантроль за выкананьнем гэтага рашэньня.

# Пра забесьпячэньне МТС, МТМ, саўгасаў і райза спэцыялістамі і кваліфікаванымі рабочымі да веснавой пасеўкампаніі

## Пастанова Народнага Камісарыяту Працы БССР

Выходзячы з таго, што пастаўленыя партыяй і ўрадам задачы пасьпяховага правядзеньня веснавой пасеўнай кампаніі і павышэньня ўраджайнасьці сельскай гаспадаркі патрабуюць кваліфікаваных кадраў, у адпаведнасьці з пастановай СНК БССР ад 17 лютага г. г. Народны Камісарыят Працы БССР пастанаўляе:

1. Для ўкамплектаваньня МТС, МТМ, саўгасаў і райза адпаведнымі кадрамі спэцыялістаў і высокакваліфікаваных рабочых накіраваць на пастаянную работу ў раёны наступную колькасьць работнікаў:

а) аграномаў і зоатэхнікаў—200 чал.;

б) рахункова-фінансавых і плянава-экан. работнікаў—205 чал.;

в) высокакваліфікаваных рабочых (мэханікі, токары і сьлесары)—290 чал.

2. Паказаную ў п. 1 колькасьць работнікаў накіраваць не пазьней 1 сакавіка 1933 г. з наступных сыстэм і арганізацый (дадатак № 1).

3. Вылучэньне і накіраваньне спэцыялістаў і кваліфікаваных рабочых з паказаных у п. 2 арганізацый праводзіцца наступным парадкам:

а) кіраўнікі пералічаных у гэтай пастанове ўстаноў і арганізацый, якія павінны вылучыць аграномаў, зоатэхнікаў і рахункова-плянавых работнікаў, абавязаны на працягу 2-х дзён з моманту апублікаваньня гэтай пастановы пэрсанальна вылучыць вызначаную колькасьць спэцыялістаў і зьявіцца ў сэктар забесьпячэньня кадрамі НКПБ з працоўнымі сьпісамі гэтых спэцыялістаў;

б) намечаныя сэктарам кадраў сумесна з адпаведнай гаспадарчай арганізацыяй спэцыялісты накіроўваюцца на пастаянную работу ў раёны па адзінай пуцёўцы, якая выдаецца спэцыялісту пры яго асабістай яўцы ў Наркампраці БССР;

в) высокакваліфікаваныя рабочыя (мэханікі, токары, сьлесары), вылучаныя адпаведнымі прадпрыемствамі па сумеснаму ўказаньню НКПБ і адпаведнага гаспадарчага аб'яднаньня, накіроўваюцца ў раён па пуцёўках, якія выдаюцца раённымі ці гарадзкімі інспэкцыямі працы па месцы знаходжаньня прадпрыемства;

г) мэханікі і машыністы з ліку выпускнікоў тэхнікумаў і школ накіроўваюцца па пуцёўках сэктару кадраў НКПрацы БССР, куды Галоўдартранс і Будаб'яднаньне не пазьней 21|II-1933 г. прадстаўляюць пэрсанальны сьпіс гэтых выпускнікоў.

Абавязаць кіраўнікоў устаноў і прадпрыемстваў, работнікі якіх накіроўваюцца ў раёны, не пазьней, як праз 2 дні пасьля атрыманьня работнікам пуцёўкі вызваліць ад працы гэтых работнікаў і зрабіць з імі поўны разьлік.

5. Для пакрыцьця выдаткаў, зьвязаных з праездам да пастаяннага месца работы, накіроўваемым у раён работнікам выдаецца аванс у разьмеры фактычнага кошту праезду ў наступным парадку:

а) работнікам, якія накіроўваюцца з г. Менску, аванс выдаецца НКЗемам адпаведным трэстам ці трактарацэнтрам і ўпаўнаркамсаўгасаў, у сыстэму якога накіроўваецца работнік;

б) работнікам, якія накіроўваюцца з іншых мясцовасьцяй, аванс выдаецца прадпрыемствам, у якім працаваў работнік, за кошт той с.-г. арганізацыі, у якую ён накіроўваецца;

в) поўны разьлік з работнікам робіць адпаведны саўгас, МТС, МТМ ці райза ў разьмеры і парадку, устаноўленым пастановай ЦВК і СНК СССР за 23|XI-31 г. „Аб кампэнсацыях і гарантыях пры пераводзе, прыёме ўноў і накіраваньні на работу ў іншыя мясцовасьці". (Зб. Зак. СССР, 1931 г., № 68, арт. 454).

6. У адносінах захаваньня зарплаты і абавязковага прадастаўленьня жылой плошчы на новым месцы работы, а таксама захаваньня жылой плошчы ў раней-



шым месцы жыхарства на работнікаў, якія пераводзяцца паводле гэтай пастановы, поўнасьцю пашыраюцца гарантыі, прадугледжаныя пастановай ЦВК і СНК СССР за 25||XI-32 г.

Звыш гэтага ўстанавіць, што для членаў сям'і перавадзімага работніка адміністрацыя абавязана прадаставіць кватэру не пазьней, як праз 3 месяцы з моманту пераезду самога работніка.

7. Абавязаць гарадзкія і раёнaыя інспэкцыі працы арганізаваць сыстэматычны, штодзённы кантроль за своечасовым адкамандыраваньнем прадпрыемствамі кваліфікаваных рабочых у раёны, таксама за іх выездам у вызначаны тэрмін у МТС, МТМ, саўгасы і ільназаводы.

8. Наркампрацы БССР папярэджвае ўсіх кіраўнікоў прадпрыемстваў і установаў, што ўсякія спробы затрымаць работнікаў, а таксама ўхіленьня работнікаў ад паездкі ў раён будуць разглядацца, як зрыў важнейшага мерапрыемства—падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі—і вінаватыя будуць безадкладна прыцягвацца да крымінальнай адказнасьці ў адпаведнасьці з арт. 102 крымінальнага кодэксу БССР.

Народны Камісар Працы
БССР **А. Баскін.**

Член калегіі НКПБ—нач. сэкт. па заб. нар.-гас. кадрамі **Сакольчык.**

# Аб ходзе засыпкі насенфондаў

## Пастанова ЦК КП(б)Б і СНК БССР

1. Канстатаваць, што засыпка насеньня, асабліва ільносемені па ільнаводных раёнах, за апошнюю дэкаду амаль спынілася. Асабліва ганебна адстаюць па ільнанасеньні Расонскі, Сіроцінскі, Шклоўскі, Гарадоцкі, Полацкі, Дрысенскі, Асьвейскі, Лепельскі, Сеньненскі, па зярну—Веткаўскі, Прапойскі і г. д. За апартуністычную бязьдзейнасьць у выкананьні гэтай важнейшай гаспадарча-палітычнай задачы, абвясьціць вымову сакратарам Расонскага РК т. Карчыку, Полацкага—т. Пыжыкаву і Полацкага Прэдрыка т. Шабултасу, папярэдзіць т. т. Карчыка, Пыжыкова, Шабултаса, як і сакратароў РК і старшынь РВК астатніх раёнаў, калі ў бліжэйшыя 5 дзён ня будзе створан рашучы пералом, ЦК і СНК будуць прыняты суровыя меры партспагнаньняў.

2. Абвясьціць з 23|II па 5|III дэкаднік праверкі сапраўднага наліччa насенных і страхавых фондаў, іх захаваньне і якасьць ва ўсіх калгасах, саўгасах і аднаасобных гаспадарках, а таксама склад кладаўшчыкоў пад кутом пагляду ачысткі ад клясава-варожых элемэнтаў, прапанаваўшы РСІ, РВК мабілізаваць на гэтую справу ўсе шэфскія арганізацыі, шырокі калгасны і бядняцка-серадняцкі актыў. Абавязаць праверачныя брыгады складаць суадпаведныя акты па выніках абсьледваньня. Прапанаваць РВК і сельсаветам неадкладна прыцягваць да судовай адказнасьці вінаватых у раскрадваньні, разбазарваньні, няхайнага захаваньня, выклікаючага псаваньне насеньня і г. д.

Абавязаць РК і РВК 7.III.33 г. тэлеграфна паведаміць за подпісам сакратароў РК і старшынь РВК Цэнтрапасеўком і НКЗ аб выніках праверкі.

3. Лічыць засыпаным у саўгасах і калгасах толькі тое насеньне, якое ачышчана на трыяры. Прапанаваць РК і РВК, дырэктарам МТС і саўгасам арганізаваць ачыстку насеньня такімі тэмпамі, каб скончыць яе да 5.IV, для чаго ўстанавіць каляндарны плян трыярнай ачысткі ў кожным калгасе і саўгасе, забясьпечыўшы круглясутачную работу трыера.

Абавязаць Белсельдзяржснаб і адпаведныя раёны да 1.III.33 г. прадвінуць трыяры, маючыяся на складах Сельгасснабу.

4. У сувязі з недахопам у шэрагу раёнаў зернавых культур і лішкі другіх, абавязаць т. т. Рачыцкага Журомскага ў пяцідзённы тэрмін скласьці плян перакідкі насеньня з складаў Заготзярна ў раёны для абмену.

5. На наступным паседжаньні заслухаць даклад Упаўнаркамсаўгасаў аб канкрэтных мерапрыемствах па забесьпячэньню насеннымі фондамі саўгасаў. Прапанаваць т. Жолудаву прадставіць па гэтаму пытаньню Цэнтрапасеўкому дакладную запіску.

6. Даручыць т. Рачыцкаму распрацаваць мерапрыемствы па засыпцы насеньня і канюшыны.

7. У сувязі з заявай т. Хіжынкова. абавязаць т. Рачыцкага арганізаваць праверку якасьці і ўсхожасьці ільнонасеньня, асабліва ў раёнах паражоных ільнохваробамі.

21.II. 33 г.

# Пра парадак хаваньня страхавых насенных фондаў

## ПАСТАНОВА САВЕТУ НАРОДНЫХ КАМІСАРАЎ БССР

Савет Народных Камісараў БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць, што страхавыя фонды сялян аднаасобнікаў ссыпаюцца і хаваюцца абавязкова ў агульным сьвірне, які прадастаўляецца для гэтай мэты сельскім саветам.

Збожжа і тэхкультуры, якія ссыпаюцца ў страхавыя фонды, павінна быць добраякасныя і абавязкова ачышчаныя.

2. Пэрсанальную адказнасьць за збор страхавых фондаў і іх хаваньне нясуць старшыні сельскіх саветаў і ўпаўнава-

жаныя ад вёскі, выбраныя на агульным сходзе.

Для аховы сьвірнаў са страхавымі фондамі абавязкова ўстанаўляецца ахова па чарзе з сялян данай вёскі.

Парадак хаваньня і чаргу ўстанаўляе сельскі савет.

3. Папярэдзіць старшынь сельскіх саветаў і сялян аднаасобнікаў, што за разбазарваньне і нядбайнае хаваньне страхавых фондаў яны нясуць адказнасьць, паводле пастановы ЦВК і СНК СССР за 7 жніўня 1932 г. „Аб ахове маемасьці дзяржаўных прадпрыемстваў, калгасаў і каапэрацыі і ўзмацненьні грамадзкай (сацыялістычнай) уласнасьці.

Старшыня Савету Народных Камісараў БССР **М. Галадзед.**

Кіраўнік Спраў Савету Народных Камісараў і Эканамічнага Савету БССР **С. Кандыбовіч.**

16 лютага 1933 г.
г. Менск.

# Аб прасоўваньні мінэральных угнаеньняў

## ПАСТАНОВА ЦК КП(б)Б І СНК БССР

1. За недапушчальную пастаноўку справы з падвозам мінэральных угнаеньняў, за адсутнасьць якой-бы то ні было сыгналізацыі перад адпаведнымі ворганамі — аб наяўнасьці небясьпекі прарыву ў справе забесьпячэньня мінугнаеньня—абвясьціць т. Талапіла вымову і папярэдзіць т. Талапіла, што калі ён у сваёй працы не разгорне сапраўды бальшавіцкіх тэмпаў, Цэнтральны Камітэт прыцягне яго да суровай партыйнай адказнасьці.

2. Заслухаць на бліжэйшым паседжаньні Цэнтрапасеўкому пытаньне аб забесьпячэньні сыравінай Крычаўскага фасфарытнага заводу.

3. Даручыць т. Галадзеду вырашыць усе пытаньні, зьвязаныя з фінансаваньнем завазімых мінэральных угнаеньняў.

4. Лічыць неабходным прытрымлівацца, як правіла, дырэктывы аб завозе мінэральных угнаеньняў у МТС у радыусе ня больш 35 клм. У тых выпадках, дзе завезенае ўгнаеньне ня будзе вывезена на месца, у кожным паасобным выпадку НКЗ і адпаведны РК абавязаны рассьледваць гэтую справу і прыцягваць вінаватых да крымінальнай адказнасьці.

5. Даручыць т. Жолудаву і Талапіла пераглядзець плян завозу ўгнаеньняў па паасобных саўгасах у зьвязку з агульнымі разнарадкамі дадзенымі за апошні час.

6. На наступным паседжаньні Цэнтрапасеўкому заслухаць даклад т. Талапіла з папярэднім абсьледваньнем ЦКК—РСІ.

7. У сувязі з выяўленым фактам беспарадачнай выгрузкі чыгуначнымі арганізацыямі ўгнаеньняў з заводаў і непрыняцьцем адпаведных мер з боку т. Арашчука—Сакратара Лагойскага РК, каб упарадкаваць гэтую справу, указаць т. Арашчуку, што ў выпадку паўтарэньня падобных фактаў ён панясе адпаведнае партыйнае спагнаньне.

8. Абавязаць РК і РВК побач з поўным выкарыстаньнем гужавой сілы саўгасаў па забесьпячэньню апошніх завозам мінэральных угнаеньняў, адначасова распрацаваць пляны прыцягненьня калгасаў і арганізацый аднаасобнікаў для дапамогі саўгасам у гэтай справе.

9. Абавязаць т. Талапіла дагаварыцца з адпаведнымі чыг. арганізацыямі аб раўнамерным завозе, згодна пляну мінугнаеньня па адпаведных раёнах, не дапускаючы перабояў у гэтай справе.

10. Катэгарычна падцьвердзіць рашэньне ЦК і СНК, абавязваючае РСІ і РВК, дырэктароў МТС і саўгасаў забясьпечыць вывазку са станцыі ў гаспадаркі не пазьней пяці дзён са дня прыбыцьця мінугнаеньня і падцьвердзіць, што вінаватыя ў несваечасовай вывазцы мінугнаеньня будуць сурова карацца ў партыйным і савецкім парадку.

Абавязаць т. Талапіла забясьпечыць поўны завоз мінугнаеньня ў БССР да 15 красавіка, прапанаваўшы прыняць адпаведныя апэрацыйныя меры (пасылкі спэц. людзей на заводы і г. д.).

21/II-33 г.

# АБ КАРМОХ

## З пастановы Цэнтрапасеўкому ЦК КП(б)Б ад 13-II-33 г.

1. Заслухаўшы паведамленьне нам. Упаўнаркамсаўгасаў тав. Сьмірнова і дырэктароў трэстаў т. т. Сьцяпанава (Менск, Малпрамтрэст), Жука (Менск, Сьвінтрэст), Абрамчыка (Гомельскі трэст), Дэрмна (Магілеўскі трэст) і Сідаровіча (Птушкатрэст) пасеўкамісія адзначае, што атрыманьне вызначаных саюзнымі органамі кармоў пастаўлена выключна дрэнна. З боку кіруючых работнікаў Наркамзему, а таксама адпаведных трэстаў адсутнічае systэматычны нагляд за гэтай справай, а таксама веданьне сапраўднага становішча з атрыманьнем кармоў, іх адгрузкі і г. д.

2. Даручыць пэрсанальна тав. Турлаю правесьці на працягу двух дзён разгляд па лініі ЦКК пастаноўкі гэтай справы па адпаведных трэстах, і вінаватых у выключна дрэнным становішчы гэтай справы прыцягнуць да партыйнай адказнасьці, як першай папярэджваючай меры пакараньня.

3. Папярэдзіць т. т. Сьмірнова і дырэктароў трэстаў: Абрамчыка (Гоммалпрамтрэст), Сьцяпанава (менскі Малпрамтрэст), Казака (віцебскі Малпрамтрэст), Жука (менскі Сьвінаводтрэст), Стрыго (магілеўскі Сьвінаводтрэст), Аскерка (аршанскі Сьвінаводтрэст), Сідаровіча (Птушкатрусаводтрэст, Менск), Рудзько (Племсьвінатрэст), Букцерава (Племмалпрамтрэст, Горкі), што ў выпадку невыкананьня работ па атрыманьні, разьмеркаваньні і разгрузцы гэтых кармоў, неўстанаўленьня стражэйшай эканоміі ў іх выдаткаваньні,—яны будуць прыцягнуты да судовай адказнасьці, як за парушэньне дырэктыў партыі і ўраду.

4. Устанавіць штодзенную справаздачнасьць аб ходзе атрыманьня і разгрузкі кармоў, пунктах і тэрмінах адпраўкі, якую прадстаўляюць пасеўкамісіі.

5. Лічыць неабходным вызначыць адказных прадстаўнікоў для пасылкі на Украіну і ЦЧВ для паскарэньня справы атрыманьня кармоў, а таксама нагляду і кантролю за работай упаўнаважаных па гэтых абласьцях, дасланых ужо раней.

6. Папярэдзіць дырэктароў саўгасаў, якія атрымліваюць кармы, што з іх боку павінны быць неадкладна прыняты меры да атрыманьня і адгрузкі вызначаных ім кармоў.

РК КП(б)Б устанавіць кантроль за правядзеньнем гэтай работы.

7. Даручыць тав. Рэзьнікаву ўстанавіць нагляд за прасоўваньнем і разгрузкай па лініі чыгунак БССР грузаў з кармамі.

# Аб правядзеньні раённых зьлётаў калгасьнікаў-ударнікаў лепшых калгасаў

*ПАСТАНОВА ЦЭНТРАПАСЕЎКОМУ АД 25-II-33 г.*

1. Склікаць з 7 па 10 сакавіка г. г. зьлёты калгасьнікаў-ударнікаў перадавых калгасаў.

Зацьвердзіць наступны парадак дня зьлётаў:

Даклад аб арганізацыі веснавой сяўбы і разгортваньні сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў калгасах.

2. Прапанаваць ГК і РК КП(б)Б, ЦК ЛКСМБ, прафсаюзным і зямельным арганізацыям усю падрыхтоўку і зьлёты правесьці як шырокую масавую палітычную кампанію, якая-б забясьпечвала мабілізацыю калгасных мас на ажыцьцяўленьне пастаноў пленуму ЦК УсеКП(б), прамовы тав. Сталіна аб рабоце на вёсцы і пастаноў усесаюзнага зьезду калгасьнікаў-ударнікаў,—на сапраўднае разгортваньне сацспаборніцтва і ўдарніцтва ў кожным калгасе, брыгадзе і паміж калгасьнікамі ў справе лепшай арганізацыі веснавой сяўбы, на бязьлітасную барацьбу за захаваньне калгаснай і дзяржаўнай маемасьці, супроць кулацкіх і клясава-варожых элемэнтаў, гультаёў, дармаедаў і рвачоў.

3. Паказаць усім РК і ГК КП(б)Б, што на зьлёты выбіраюцца лепшыя ўдарнікі-калгасьнікі, галоўным чынам, брыгадзіры, пераважна, працуючыя непасрэдна на вытворчасьці і толькі перадавымі калгасамі, паказаўшымі лепшыя прыклады ў справе выкананьня сваіх абавязкаў перад дзяржавай, у падрыхтоўцы да веснавой сяўбы, укараненьні агразоатэхнікі, павышэньні ўраджайнасьці і разьвіцьці жывёлагадоўлі, барацьбы за моцную калгасную дысцыпліну, захаваньне калгаснай маемасьці і ачыстку ад кулацкіх і чужых элемэнтаў.

4. Для кіраўніцтва падрыхтоўкай і правядзеньнем зьлётаў зацьвердзіць палітычную камісію ЦК у складзе **т. т. Шаранговіча** (старшыня), **Рачыцкага** (з заменай **Рэвінскім**), **Картукова, Герцовіча (ЦК ЛКСМБ), Ленцнэра, Лісковіча (ЦСПСБ).**

5. Даручыць камісіі ЦК не пазьней 27 лютага ўстанавіць колькасьць дэлегатаў ад кожнага раёну, зацьвердзіць і разаслаць ўсім ГК і РК падрабязнае ўказаньне аб правядзеньні масавай палітычнай работы, вызначыць канкрэтныя задачы для друку, прафсаюзаў, камсамолу, Дзяржвыдавецтва, Белдзяржкіно і інш. арганізацый, вырашыць фінансавае пытаньне, таксама падабраць і канчаткова зацьвердзіць упаўнаважаных ЦК па падрыхтоўцы да зьлётаў і дакладчыкаў па буйнейшых і найбольш важных раёнах. Дакладчыкамі па ўсіх іншых раёнах лічыць сакратароў РК.

6. Прапанаваць усім ГК і РК КП(б)Б не пазьней 27 лютага арганізаваць пры РК камісіі па падрыхтоўцы да зьлётаў у складзе: заг. аргаддзелам ГК і РК (старшыня), заг. райза, сакратара ГК-РК, ЛКСМБ і ўпаўнаважанага ЦК, на якіх ускладаецца поўная адказнасьць за падрыхтоўку і арганізацыю зьлётаў.

Сакратар ЦК КП(б)Б Гікало.

---

# Адстаючыя раёны па засыпцы насенфондаў

(па становішчу на 24|II-33 г.)

Па збожжу:

**Ільнаводна-малочныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сіроцінскі | 78,6 | проц. | вык. |
| Шклоўскі | 87,4 | " | " |
| Гарадоцкі | 90,7 | " | " |
| Горацкі | 91,1 | " | " |
| Бешанковіцкі | 92,8 | " | " |
| Чашніцкі | 93,5 | " | " |
| Полацкі | 94,8 | " | " |

**Жывёлагадоўча-бульбяныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Веткаўскі | 85,2 | проц. | вык. |
| Уваравіцкі | 87,5 | " | " |
| Плешчаніцкі | 88,2 | " | " |
| Прапойскі | 90,7 | " | " |
| Бярэзінскі | 92,3 | " | " |
| Жлобінскі | 93,1 | " | " |
| Б. Кашалёўскі | 93,2 | " | " |
| Чырвонапольскі | 93,3 | " | " |
| Асіповіцкі | 93,4 | " | " |
| Быхаўскі | 93,6 | " | " |
| Дзяржынскі | 95,1 | " | " |

**Жывёлагадоўча-канапляводныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Камарынскі | 89,7 | проц. | вык. |
| Любаньскі | 91,2 | " | " |
| Пятрыкоўскі | 91,6 | " | " |
| Тураўскі | 93,7 | " | " |

**Садова-гародня-малочныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Магілеўскі | 93,7 | проц. | вык. |

Па ільнанасеньню.

**Ільна-малочныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Расонскі | 22,8 | проц. | вык. |
| Полацкі | 28,7 | " | " |
| Асьвейскі | 32,9 | " | " |
| Сіроцінскі | 34,0 | " | " |
| Дрысенскі | 41,2 | " | " |
| Лепельскі | 45,7 | " | " |
| Сененскі | 49,2 | " | " |
| Шклоўскі | 53,1 | " | " |
| Крупскі | 58,3 | " | " |
| Бешанковіцкі | 58,6 | " | " |
| Гарадоцкі | 59,8 | " | " |
| Бялыніцкі | 60,9 | " | " |
| Талочынскі | 66,9 | " | " |
| Горацкі | 71,7 | " | " |
| Мсьціслаўскі | 72,7 | " | " |
| Суражскі | 75,5 | проц. | вык. |
| Дубровенскі | 84,0 | " | " |
| Вушацкі | 85,1 | " | " |

**Жывёлагадоўча-бульбяныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Заслаўскі | 56,0 | проц. | вык. |
| Чэрвеньскі | 58,9 | " | " |
| Плешчаніцкі | 64,2 | " | " |
| Бягомльскі | 65,0 | " | " |
| Лагойскі | 66,0 | " | " |
| Смалявіцкі | 72,4 | " | " |
| Клімавіцкі | 77,1 | " | " |
| Асіпавіцкі | 78,0 | " | " |
| Вузьдзенскі | 78,6 | " | " |
| Дзяржынскі | 82,2 | " | " |
| Старадароскі | 83,0 | " | " |
| Бьрчзінскі | 83,4 | " | " |
| Пухавіцкі | 85,1 | " | " |
| Чырв.-Слабодзкі | 90,6 | " | " |
| Крычаўскі | 91,1 | " | " |
| Веткаўскі | 92,5 | " | " |
| Клічаўскі | 93,2 | " | " |

**Жывёлагадоўча-канапляводныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Жыткавіцкі | 79,8 | проц. | вык. |
| Глускі | 82,6 | " | " |
| Нараўлянскі | 87,8 | " | " |
| Пятрыкоўскі | 88,9 | " | " |

**Садова-гародня-малочныя раёны**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Віцебскі | 65,5 | проц. | вык. |
| Аршанскі | 70,7 | " | " |
| Бабруйскі | 86,8 | " | " |

Па бульбе

**Ільна-малочныя раёны:**

| | | | |
|---|---|---|---|
| Сіроцінскі | 52,2 | проц. | вык. |
| Бешанковіцкі | 74,9 | " | " |
| Чашніцкі | 78,0 | " | " |
| Расонскі | 78,7 | " | " |
| Гарадоцкі | 78,8 | " | " |
| Сеньненскі | 86,4 | " | " |
| Горацкі | 87,0 | " | " |
| Дубровенскі | 87,5 | " | " |

| | | |
|---|---|---|
| Вушацкі . . . | 87,7 | проц. вык. |
| Суражскі . . . | 91,7 | „ „ |
| Бялыніцкі . . . | 92,3 | „ „ |
| Полацкі . . . | 93,4 | „ „ |

### Жывёлагадоўча-бульбяныя раёны

| | | |
|---|---|---|
| Чырвонаслабодзкі . | 80,7 | проц. вык. |
| Чырвонапольскі . | 81,9 | „ „ |
| Клічаўскі . . . | 83,0 | „ „ |
| Старадароскі . . | 83,1 | „ „ |
| Веткаўскі . . . | 84,1 | „ „ |
| Кармянскі . . . | 84,1 | „ „ |
| Прапойскі . . . | 87,0 | „ „ |
| Асіповіцкі . . . | 88,0 | „ „ |
| Бярэзінскі . . . | 88,9 | „ „ |
| Вузьдзенскі . . | 89,5 | „ „ |
| Уваравіцкі . . | 89,9 | „ „ |
| Чэрвеньскі . . . | 91,1 | „ „ |
| Рагачоўскі . . | 91,2 | „ „ |
| Заслаўскі . . . | 91,4 | „ „ |
| Быхаўскі . . . | 91,8 | „ „ |
| Слуцкі . . . . | 91,9 | „ „ |
| Жлобінскі . . . | 92,0 | „ „ |
| Чачэрскі . . . | 92,3 | „ „ |
| Заслаўскі . . . | 94,2 | „ „ |

### Жывёлагадоўча-канапляводныя раёны

| | | |
|---|---|---|
| Лоеўскі . . . | 73,4 | проц. вык. |
| Нараўлянскі . . | 76,5 | „ „ |
| Ельскі . . . | 77,9 | „ „ |
| Тураўскі . . . | 83,3 | „ „ |
| Пятрыкоўскі . . | 85,3 | „ „ |
| Хойніцкі . . . | 88,4 | „ „ |
| Рэчыцкі . . . | 88,5 | „ „ |
| Мазырскі . . . | 89,4 | „ „ |
| Жыткавіцкі . . | 90,9 | „ „ |
| Парыцкі . . . . | 91,5 | „ „ |
| Старобінскі . . | 91,9 | „ „ |
| Лельчыцкі . . . | 93,7 | „ „ |
| Камарынскі . . | 94,1 | „ „ |

### Садова-гародна-малочныя раёны

| | | |
|---|---|---|
| Аршанскі . . . | 95,1 | проц. вык. |
| Бабруйскі . . . . | 96,4 | „ „ |

## Па каноплі:

### Ільна малочныя раёны

| | | |
|---|---|---|
| Лёзьнянскі . . . | 0 | проц. вык. |
| Сіроцінскі . . . | 0 | „ „ |
| Расонскі . . . | 0 | „ „ |
| Асьвейскі . . . | 0 | проц. вык. |
| Дрысенскі . . . | 0 | „ „ |
| Лепельскі . . . | 59,8 | „ „ |
| Шклоўскі . . . | 65,0 | „ „ |
| Дубровенскі . . . | 85,2 | „ „ |
| Мсьціслаўскі . . | 91,3 | „ „ |

### Жывёлагадоўча-бульбяныя раёны

| | | |
|---|---|---|
| Чырвонапольскі . | 60,5 | проц. вык. |
| Заслаўскі . . . | 61,1 | „ „ |
| Слуцкі . . . . | 63,9 | „ „ |
| Кармянскі . . . | 64,5 | „ „ |
| Крычаўскі . . . | 81,9 | „ „ |
| Смалявіцкі . . . | 81,9 | „ „ |
| Чырвонаслабодзкі . | 87,5 | „ „ |
| Бярэзінскі . . . | 84,6 | „ „ |
| Асіпавіцкі . . . | 93,3 | „ „ |
| Капыльскі . . . | 93,3 | „ „ |

### Жывёлагадоўча-канапляводныя раёны

| | | |
|---|---|---|
| Ельскі . . . . | 0 | проц. вык. |
| Нараўлянскі . . | 37,0 | „ „ |
| Хойніцкі . . . | 43,1 | „ „ |
| Жыткавіцкі . . . | 68,1 | „ „ |
| Глускі . . . | 71,1 | „ „ |
| Любаньскі . . . | 72,7 | „ „ |
| Пятрыкоўскі . . | 75,4 | „ „ |
| Брагінскі . . . | 76,9 | „ „ |
| Рэчыцкі . . . | 82,9 | „ „ |
| Лоеўскі . . . . | 84,3 | „ „ |
| Мазырскі . . . | 85,7 | „ „ |
| Старобінскі . . | 93,9 | „ „ |

### Садова-гародна-малочныя раёны

| | | |
|---|---|---|
| Віцебскі . . . | 0 | проц. вык. |
| Менскі . . . | 0 | „ „ |
| Гомельскі . . . | 67,8 | „ „ |
| Бабруйскі . . . | 77,3 | „ „ |
| Аршанскі . . . | 77,8 | „ „ |
| Магілеўскі . . . | 80,6 | „ „ |

## МТС, якія зрываюць плян рамонту трактараў

### Па Ільнатрактарацэнтру

(па становішчу на 25|II-33 г.)

| Назва МТС | Плян рамонту | Адрамантавана | Процант выкан. |
|---|---|---|---|
| 1. Суражская | 26 | — | — |
| 2. Чавуская | 11 | — | — |
| 3. Мсьціслаўская | 39 | 1 | 2,6 |
| 4. Гарадоцкая | 29 | 2 | 6,9 |
| 5. Шклоўская | 40 | 2 | 5,6 |
| 6. Бешанковіцкая | 29 | 2 | 6,9 |
| 7. Крупская | 11 | 1 | 9,1 |
| 8. Бялыніцкая | 27 | 4 | 14,8 |
| 9. Сененская | 32 | 7 | 21,8 |
| 10. Горацкая | 38 | 10 | 26,3 |
| 11. Чашніцкая | 22 | 6 | 27,3 |
| 12. Расонская | 30 | 10 | 33,3 |
| 13. Боркавіцкая | 23 | 9 | 39,1 |
| 14. Дубровенская | 40 | 15 | 37,5 |
| 15. Сіроцінская | 30 | 12 | 40,0 |

### Па Гароднiна-Бульбяному Трактарацэнтру

(па становішчу на 25|II-33 г.)

| Назва МТС | Плян рамонту | Адрамантавана | Процант выкан. |
|---|---|---|---|
| 1. Барысаўская | 24 | 1 | 4,1 |
| 2. Магілёўская | 24 | 2 | 8,3 |
| 3. Гомельская | 16 | 2 | 12,5 |
| 4. Бальшавіцкая | 20 | 5 | 25,0 |
| 5. Путчынская | 17 | 5 | 29,4 |
| 6. Полацкая | 24 | 8 | 33,3 |
| 7. Церахоўская | 32 | 12 | 37,5 |
| 8. Цялушская | 22 | 9 | 40,9 |

### Па Збожжаваму Трактарацэнтру

(па становішчу на 25/II-33 г.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. Хойніцкая | 26 | — | — |
| 2. Лельчыцкая | 15 | 3 | 20,0 |
| 3. Пухавіцкая | 24 | 5 | 20,8 |
| 4. Бягомльская | 20 | 5 | 25,0 |
| 5. Вузьдзенская | 20 | 6 | 30,0 |
| 6. Плешчаніцкая | 20 | 7 | 35,0 |
| 7. Тураўская | 10 | 4 | 40,0 |

## ЗВОДКА

### аб рамонце трактараў і матораў у МТМ

(па становішчу на 25|II-33 г.)

| НАЗВА МТМ | Трактары | | | Маторы | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Плян рамонту | Адрамантавана | Проц. выкан. | Плян рамонту | Адрамантавана | Проц. выкан. |
| **Па Ільнатрактарацэнтру** | | | | | | |
| 1. Лепельская | 41 | 25 | 61,0 | 77 | 38 | 49,3 |
| 2. Гарадоцкая | 29 | 5 | 17,2 | 144 | 52 | 36,1 |
| 3. Горацкая | 38 | 1 | 26,3 | 122 | 4 | 28,7 |
| **Па збожжатрактарацэнтру** | | | | | | |
| 1. Слуцкая | 50 | 25 | 50,0 | 61 | 35 | 57.3 |
| **Па Гароднiна-Бульб. Трактарацэнтру** | | | | | | |
| 1. Аршанская | 21 | 14 | 66,6 | 67 | 12 | 17,9 |
| 2. Дзяржынская | 56 | 28 | 50,0 | 52 | 10 | 19,2 |
| 3. Рагачэўская | 66 | 50 | 75,7 | 62 | 14 | 22,5 |
| 4. Клімавіцкая | 73 | 35 | 47,9 | 51 | — | — |
| 5. Гомельская | 16 | — | — | 68 | 26 | 30,8 |

## Рамонт трактараў па сыстэма Наркамцяжпраму

| Назва прадпрыемства | Плян | Адрамант. | Проц. |
|---|---|---|---|
| Гомсельмаш | 50 | 26 | 52 |
| Пралетары | 25 | 1 | 4 |
| Варашылаў | 25 | — | — |
| Камунар | 25 | — | — |
| Чырвоны Барацьбіт | 124 | 26 | 21 |
| Рухавік Рэвалюцыі | 50 | 5 | 10 |

## Зрываюць пляны выпуску запчастак

| | | Плян | Выканана | Проц. |
|---|---|---|---|---|
| Шатунных балтоў | Гомсельмаш | 10.700 | 1.733 | 16 |
| Утулак цапфа | Пралетары | 400 | 185 | 46 |
| Абточка парш. кал. | „ | 3.500 | 626 | 17,5 |
| Апрацоўка гільз | Камунар | 200 | — | — |

# ЗВОДКА

### аб вытворчасьці запасных частак для трактараў па цэнтралізаванаму заданьню

(па становішчу на 25|II-33 г.

| Назва дэталей | Плян | Выкан. | Проц. |
|---|---|---|---|
| Адліўка балванак для калец ХТЗ і ФП | 10.000 | 10.000 | 100 |
| Паршней камплект. | 500 | 291 | 58 |
| Абточка паршн. калец | 10 000 | 7.236 | 72 |
| Шатун. балтоў | 10.700 | 1.733 | 16 |
| Дыск. муфт. счэпл. | 100 | 50 | 50 |
| Утулак бронз. для галоўкі шатуна | 1.400 | 970 | 70 |
| Утул. цапф | 400 | 185 | 46 |
| Рамонт трактараў | 294 | 63 | 21 |

## Рамонт трактараў і вытворчасьць запасных частак



## Аб насеньні

